Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

25 лютага – 2 сакавіка 2000 года
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
Цана ў розніцу 50 руб. (50 000 руб.)
№ 8 (253)

АДНА ЗЯМЛЯ

НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ

Субота, 26 лютага

| | Мінск | Вільня |
|---|---|---|
| Уначы | -1° – -9°C | -2°C |
| Удзень | -4° – +2°C | 0°C |



Нядзеля, 27 лютага

| | Мінск | Вільня |
|---|---|---|
| Уначы | -6° – -8°C | -5°C |
| Удзень | 0° – -6°C | 0°C |



МАЛАДЗЕЧНА

## Пазбавіліся канкурэнтаў

Мясаперапрацоўчы цэх калгаса Гарадзілава пазбаўлены статусу нарыхтоўшчыка. А гэта значыць, ён не будзе выпускаць кілбасныя вырабы. Са сваёй жывёлы шмат не напрацуеш, бо план дзяржздачы мяса ніхто не адмяняў.

На маладзечанскім мясакамбінаце днямі павінны запусціць аўстрыйскую лінію кілбаснага цэха.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## Лепшыя ў рэспубліцы натарыусы

Раённая натарыяльная кантора прызнаная лепшай у краіне па выніках мінулага года. Працуюць там тры натарыусы, юрыст–кансультант. Нядаўна кантора атрымала падзяку ад ураджэнца Вілейкі міністра юстыцыі РБ Генадзя Варанцова.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

СМАРГОНЬ

## «Хуткая» прыехала ў Жодзішкі

Рашэннем упраўлення аховы здароўя Гродзенскай вобласці Смаргонскае тэрытарыяльна–медыцынскае аб'яднанне заняло першае месца ў вобласці. У якасці падарунка ТМА атрымала машыну хуткай дапамогі. Гэтая машына была прэзентаваная ўчастковай бальніцы ў вёсцы Жодзішкі.

*Павел МАКЛЮК.*

ВІЛЕЙКА

## Прадпрымальнік года

Прадпрымальнікам года Мінскай вобласці прызнаны дырэктар ТАА "Камдар" **Уладзімір Аладзін**. Гэтае прадпрыемства выпускае дарожную тэхніку (напрыклад, пескамёты) і абсталяванне для асфальтавых заводаў.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Неабаронены

На аўторак зноў было запланавана наведванне горада старшынёй аблвыканкома **Мікалаем Дамашкевічам**. І на гэты, трэці па ліку раз, візіт быў перанесены. Горад працуе без абароны перад абласной вертыкаллю паказчыкаў свайго развіцця.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## У Вішневе – лічбавая АТС

18–20 лютага ўведзеная ў эксплуатацыю АТС–5. Да канца года АТС расшырыцца на тысячу тэлефонных нумароў. Адначасова бярэцца пад расшырэнне некалькі станцый у раёне.

Напрыклад, у Вішневе АТС будзе замененая на лічбавую. Яе ёмістасць будзе павялічаная на 400 нумароў. За мінулы год было ўведзена 1055 (у горадзе) і 249 (у раёне) новых нумароў.

*Павел МАКЛЮК.*

ВІЛЕЙКА

## Інвалідам стаў у сто год

Напярэдадні свайго стагадовага юбілею жыхар вёскі Хадасы **Міхаіл Уладыка** атрымаў статус інваліда па стане здароўя.

Нарадзіўся ён у Хадасах, удзельнічаў у Вялікай Айчыннай, працаваў у калгасе. Жыве разам з 90–гадовай жонкай.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## ДК можа адкрыцца праз 3 гады

Загадчыца фінансавага аддзела гарвыканкома Паліна Вашкевіч паведаміла, што на 2000 год выдзелена 300 мільёнаў рублёў з абласнога бюджэту на будаўніцтва Дома культуры.

Летась у Маладзечне агульнымі намаганнямі здабылі 21 мільён дэнамінаваных рублёў (сродкі з агульнагарадскога суботніка, абласнога і гарадскога бюджэтаў).

Начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва (УКБ) гарвыканкома **Іван Кунцэвіч** гаворыць, што сродкаў выдзелілі менш, чым прасілі (патрэбны быў мільярд). Па плане будаўніцтва завершыцца ў 2003 годзе. Сёлета плануецца зрабіць дах, у клубную частку дома ўставіць вокны. Калі хопіць сродкаў, будуць адрамантаваныя цеплатрасы.

На жаль, грошы выдзяляюцца, у асноўным, на паперы. З мінулагодніх мільёнаў да УКБ дайшлі не ўсе. Пра сёлетнія практычная гаворка пакуль не ідзе. Якія сумы абласны бюджэт паабяцае пералічыць на будаўніцтва – не ведае ніхто.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Прамысловасць у заняпадзе

Нядаўна для смаргонскай прамысловасці пачаўся новы год. За студзень раён стаў горшым у вобласці. Прамысловай прадукцыі было выпушчана за месяц усяго 68,8% у адносінах да мінулага года. Адным з нямногіх прадпрыемстваў, якое не страціла аб'ёмы таварнай вытворчасці, стаў завод аптычнага станкабудавання. 2 гады запар ён забяспечвае тэмпы росту 250–260%.

*Павел МАКЛЮК.*

ДАЛІКАТНАЯ СПРАВА

# Маладзечну патрэбныя прыбіральні

## адзіная грамадская камунальная – і тая на рамонце

МАЛАДЗЕЧНА. Калі кіравацца санітарнымі патрабаваннямі, стотысячны горад павінен мець больш за дзесятак грамадскіх прыбіральняў. Па будаўнічых нормах і правілах "планіроўкі і забудовы гарадскіх і сельскіх паселішчаў" ад 2.07.1989, адзін прыбор (унітаз ці, прабачце, дзірка) разлічаны на 1 тысячу насельніцтва. Па існуючых санітарных правілах устройства і ўтрымання грамадскіх прыбіральняў за 1972 год, прапорцыі больш жорсткія – 1 "ачко" на 500 чалавек. Як бы тое ні было, у горадзе адна грамадская камунальная прыбіральня: ля кінатэатра "Радзіма". Аднак і яна цяпер закрытая на рамонт. Дэфіцыт гэтых "устаноў" асабліва відаць у мароз на белым снезе.

Пра гэтую праблему ўлады, цэнтр гігіены і эпідэміялогіі ведаюць. Ужо спраектаваныя тры прыбіральні: па вуліцы Будаўнікоў, у цэнтральным парку, ля магазіна "Дзіцячы свет" па Вялікім Гасцінцы. Таксама плануецца капітальна адрамантаваць існуючую. Гэта ўсё будзе каштаваць каля 100 мільярдаў рублёў. Адшукваюцца сродкі.

Дарэчы, па тых жа санітарных правілах, радыус дзеяння гарадскіх прыбіральняў павінен складаць 500–700 метраў. І патрэбна, каб падыходы да іх абазначаліся ўказальнікамі. У горадзе, праўда, яшчэ ёсць ведамасныя прыбіральні на вакзалах, рынках, стадыёне. Па правілах павінны быць на плошчах, вуліцах з вялікім пешаходным рухам, ля гандлёвых цэнтраў.




*Адзіная грамадская камунальная прыбіральня на рамонце*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

На тым тыдні горад наведаў прадстаўнік экалагічнага фонду "Захаваем Швецыю чыстай" Стэфан Сванберг. Са Швецыі прывез, у прыватнасці, макет сучаснай прыбіральні для дачнага доміка. Па новай тэхналогіі, мача, прабачце, збіраецца асобна. Разбаўляецца вадой (1 вядро на 10 вады), і такім спецыфічным растворам угнойваецца садавіна і агародніна.

Дарэчы, калі ў школу Швецыі завітаюць госці і захочуць пакарыстацца прыбіральнямі, ім выдаюць спецыяльны квіток–падзяку. Маўляў, дзякуй за тое, што вы клапоціцеся пра будучы ўраджай. У нас жа адходы жыццядзейнасці чалавека прападаюць задарма.

Гасцям горада, ды і самім гараджанам не пашкодзяць "мокрыя" парады. На Старым Месце ёсць ведамасная прыбіральня за піўным барам. Бясплатная. Альбо, калі вы трапілі ў нейкі мікрараён і маеце патрэбу, шукайце аб'ект, які будуецца. Там абавязкова знойдзеце часовую прыбіральню для будаўнікоў.

Ад бескультур'я найбольш пакутуюць жылыя дамы па вуліцах 17 верасня, Драздовіча, Багдана Хмяльніцкага. Наяўнасць віна–гарэлачных магазінаў і адсутнасць прыбіральняў псуюць лесвічныя клеткі і нервуюць жыхароў.

ВІЛЕЙКА. Тут чатыры прыбіральні ГВА ЖКГ: у парку, на цэнтральнай плошчы, канцавых прыпынках «Вадасховішча» і мікрараёна Макаўе. Абслугоўвае іх ўсе адзін чалавек. Плануецца будаўніцтва прыбіральні ля магазіна №10 (міні-рынак).

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ,*
*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

СВАБОДА СЛОВА І ЎЛАДА

**Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на атрыманне, захоўванне і распаўсюджванне поўнай, праўдзівай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, аб палітычным, эканамічным, культурным і міжнародным жыцці, стане навакольнага асяроддзя.**

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, артыкул 34.

# Журналістам «Рэгіянальнай газеты» адмоўлена ў акрэдытацыі

У мінулую пятніцу рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" атрымала афіцыйны ліст, падпісаны старшынёй Астравецкага райвыканкома Адамам Кавалькам наступнага зместу: *"Астравецкі выканаўчы камітэт не лічыць неабходным акрэдытоўваць пры ваканкоме журналістаў вашага выдання. Раённая газета "Астравецкая праўда" у поўнай меры асвятляе дзейнасць раённага выканаўчага камітэта, а рэдактар гэтай газеты з'яўляецца членам выканкома. Акрамя таго, многія звесткі аб падзеях, якія адбываюцца ў раёне, публікуюцца ў газеце "Гродненская правда"*.

"Рэгіянальная газета" з першага свайго нумара ставіць задачай як мага паўней паказваць жыццё нашага краю. Ад гэтага прынцыпу мы не адыходзім амаль пяць год нашага існавання. Аднак не заўсёды мы маем магчымасць своечасова атрымліваць афіцыйную інфармацыю, бо нярэдка некаторыя чыноўнікі, у парушэнне законаў, адмаўляюць недзяржаўнаму выданню ў запытваемых звестках. Таму, кіруючыся "Законам аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", які прадугледжвае права рэдакцый на акрэдытацыю сваіх карэспандэнтаў пры дзяржаўных органах, накіравалі адпаведныя запыты ў выканкомы і Саветы нашага рэгіёна. У запытах мы таксама выказвалі спадзяванне, што звесткі з органаў мясцовага самакіравання і выканаўчых структур "будуць не проста карысныя і цікавыя для жыхароў нашага рэгіёна, але і пасадзейнічаюць інтэграцыі насельніцтва нашага краю".

Мы спадзяваліся на станоўчую рэакцыю нават не таму, што такога рашэння патрабуе закон, а проста з–за ўзаемаразумення. Першы, станоўчы, адказ прыйшоў ад старшыні Маладзечанскага райвыканкома Леаніда Зайца.

Другі, адмоўны, ад Адама Кавалькі з Астраўца. Ад Адама Кавалькі, які яшчэ ў нядаўнім інтэрв'ю нашай газеце (№2 ад 14 студзеня) жадаў "каб хутчэй настаў час для кожнага з нас, калі будзем жыць годна". На жаль, паняцце годнасці ва ўяўленні Адама Дзмітрыевіча, як бачым, можа спалучацца з імкненнем да абмежавання ў інфармаванні землякоў аб тым, што адбываецца ў раёне, адміністрацыю якога ён узначаліў зусім нядаўна.

**Працяг на 2-й стар.**

ПАКУТУЕМ

# У былых франтавікоў агульны вораг – холад

*МАЛАДЗЕЧНА. 23 лютага былыя франтавікі Анатоль Паўлаў і Сцяпан Жукаў адзначылі півам. Гады ўжо не тыя, ды і здароўе. Адзін інвалід ІІ групы, другі — І. Як прынята, успомнілі сваіх баявых сяброў. А потым увесь час дзяліліся досведам, як не змерзнуць у сваіх добраўпарадкаваных кватэрах.*

Яны – суседзі, абодвум "пашчасціла" жыць у дамах, якія ацяпляюцца ад кацельні станказавода. 8 год таму ў дамах па вуліцы Замкавай, Афіцэрскай, завулку Маладзечанскім пачаліся перабоі з цяплом і гарачай вадой. Штогод сітуацыя ўсё пагаршаецца (пра гэта мы пісалі неаднойчы). Гэтай зімой толькі 2 тыдні ў кватэрах шматпавярховак быў "ташкент" (пасля таго, як жыхары сабралі подпісы і калектыўную скаргу завезлі ў аблвыканком). У мінулы аўторак тэмпература ў іх кватэрах была звычайная – 10 градусаў цеплыні.

## Старшына Паўлаў

У горад разам з жонкай прыехаў 2 гады таму. Жылі ў Мінску, сваю "хрушчоўку" абмянялі на 2–пакаёвую палепшанай планіроўкі ў Маладзечне. Тут родныя, заўсёды падтрымаюць і дапамогуць, калі што. Жыллёвы "рай" доўжыўся да халадоў. У выніку адзін з пакояў гаспадары шчыльна заканапацілі. І трымаюць там бульбу, тую–сюю агароднiну. Ураджай захоўваецца да лета. І склеп непатрэбны. Самі ж жывуць у адным пакоі. Ацяпляюцца электрапрыборамі. Ад ранку да ночы паляць газ.

– У мяне асноўная праблема – памыць мужа, – гаворыць жонка франтавіка, – ён ледзь перасоўваецца. Гарачай вады ніколі няма, а ў лазню ж разам з ім у мужчынскае аддзяленне не пайду. Грэю ваду, абціраю. Летась варам апякла нагу, пайшло заражэнне, паднялася тэмпература, нават пачаліся галюцынацыі. Цяпер ад наступстваў лячуся іголкаўколваннем.

Анатоль Паўлаў ваяваў на І Сталінградскім фронце. Пасля вайны служыў старшыной заставы ў Чачні. Аргунскую цясніну ведае не па тэлевізары. Двойчы быў паранены. Фашысцкія кулі не забілі – забівае свой родны халадок.

## Сяржант Жукаў

Кавалеру ордэна Славы 96 год. Ён інвалід І групы, мае 28 баявых узнагарод. Калі кладзецца спаць, не распранаецца. Толькі чаравікі мяняе на валёнкі.

10 год таму яны з жонкай пераехалі з Гомельшчыны ("13 вёсак тады згарэла ад атаму"). У Маладзечне ім далі аднапакаёўку.

– Месца хапае, – гавораць старыя, – толькі зусім халодна. Батарэі халодныя, ды і ўмацаваныя ў сцяну, пад тынкоўкай.

Праўда, галава сям'і прыстасаваўся мыцца халоднай вадой.

– Старыя косткі да ўсяго звыклыя, – жартуе франтавік, – я вайну прайшоў на танку – і не ў такіх сітуацыях быў.

Сёння ў Беларусі быццам і не ваююць. Аднак людзі выпрабоўваюцца холадам. І адстойваюць права на жыццё. Гадамі дабіваюцца, каб іх шматпавярхоўкі падключылі да цэнтральнага ацяплення. Цяпер вось напісалі ў Дзяржкантроль. А наогул, якіх толькі "парад" не наслухаліся ў інстанцыях. Накшталт "хочаце цёпла спаць, дык начуйце ў кацельні..." ці "няўжо 100 грамаў не можаце выпіць перад сном, каб сагрэцца? Дзеці ёсць? Ім – па 50".

**Віталь КРУПЯНЬКОЎ.**


Старшына Паўлаў.


Сяржант Жукаў.

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

СВАБОДА СЛОВА І ЎЛАДА

# Журналістам «Рэгіянальнай газеты» адмоўлена ў акрэдытацыі

**Працяг. Пачатак на 1-й стар.**

"Рэгіянальная газета" распаўсюджваецца, акрамя трох раёнаў Гродзенскай вобласці, і ў чатырох раёнах Мінскай, на тэрыторыі якой не распаўсюджваюцца ні "Гродненская правда", ні "Астравецкая праўда". Таму спасылка ў адказе Адама Кавалькі на гэтыя дзяржаўныя выданні з'яўляецца не толькі не адпаведнай закону, але і нелагічнай.


Рэспубліка Беларусь
АСТРАВЕЦКІ РАЁННЫ
ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

Республика Беларусь
ОСТРОВЕЦКИЙ РАЙОННЫЙ
ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

231210, г.п. Астравец, вул. Карла Маркса, 3, Тэл. 2-12-24, факс 2-11-23

16.02.2000 № 174
на № 7 ад 17.01.2000

Редактору информационно-рекламного издания "Рэгіянальная газета"
Манцевичу А.

Островецкий районный исполнительный комитет не считает необходимым аккредитовывать при исполкоме журналистов Вашего издания.

Районная газета "Астравецкая праўда" в полной мере освещает деятельность районного исполнительного комитета, а редактор этой газеты является членом исполкома. Кроме того многие сведения о событиях происходящих в районе публикуются в газете "Гродненская правда".

Председатель исполкома А.Д.Ковалько

Такі адказ атрымала «РГ».


Адам Кавалька.

ФОТА З АРХІВА «РГ».

Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" спадзяецца, што іншыя кіраўнікі не разглядаюць ранейшыя і сённяшнія кантакты з журналістамі нашага выдання праз прызму ўяўнай мэтазгоднасці.

Наша выданне мае намер абскардзіць незаконнае адмаўленне ў акрэдытацыі сваіх карэспандэнтаў старшынёй Астравецкага райвыканкома у Гродзенскім аблвыканкоме.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ, галоўны рэдактар "РГ".**

САМАКІРАВАННЕ

# 5–працэнтны збор ідзе ў бюджэт

МАЛАДЗЕЧНА. 27 красавіка 1999 года гарсавет прыняў рашэнне аб 5–працэнтным зборы за паслугі рэстаранаў, кафэ, бараў.

Да канца года агульная сума збора склала 6,07 мільёна рублёў (усе лічбы ў "новых" цэнах).

Летась бюджэт «падняўся» на 48,37 мільёнаў і за кошт 5–працэнтнага падатку на продаж спіртных і тытунёвых вырабаў.

Старшыня фінансавага аддзела гарвыканкома **Паліна Вашкевіч** патлумачыла, што гэтыя сродкі пайшлі на фінансаванне расходаў і мерапрыемстваў, прадугледжаных бюджэтам.

А 2% збор з прыбытку прадпрыемстваў на ўтрыманне і развіццё інфраструктуры Маладзечна летась склаў 68,8 мільёна рублёў і пайшоў на добраўпарадкаванне.

**Аддзел інфармацыі.**

ДНІ НАРАДЖЭННЯ

*25 лютага*

80 год з дня нараджэння (1920) **П. Прыходзькі**, беларускага паэта.

ВЫСТАЎКІ

# Настаўніца наладзіла мастацкую выстаўку

СМАРГОНЬ. У гісторыка–краязнаўчым музеі адкрылася персанальная выстаўка Святланы Янкоўскай "Музыка душы". Працуе самадзейная мастачка ў Смаргонскай гімназіі настаўніцай пачатковых класаў.

Колькі год таму Святлана паспытала сябе ў фларыстыцы і дэкаратыўным пано – яе вырабы з розных матэрыялаў нагадвалі малюнкі кветак, раслін, нейкія вобразы. Найбольш запомніліся "Чараўніцкае возера" (тканіна, бісер), "Край родны (рагоз, піжма, сухацвет), "Ён і яна" (папараць), "Міс Грацыя" (тканіна, ружа), "Бансай" (карэнні раслін, мох, сухацвет, піжма, кабачок), "Музыка душы" (сухацветы, насенне раслін, лупіны апельсіна). Усяго экспануецца 70 работ.

**Віктар ШОЦЬ.**

АНТЫГРЫП

# Кожнаму школьніку – па «Рэвіце»

МАЛАДЗЕЧНА. З мэтай нанесці па эпідэміі папераджальны ўдар, у краіне прынялі цэлую праграму прафілактыкі грыпу.

У яе рамках гарадскі аддзел аховы здароўя загадаў стварыць камісіі па вітамінізацыі школьнікаў. Старшынёй прызначылі загадчыцу дзіцячай паліклінікі **Святлану Скапец**.

Кантроль за ходам вітамінізацыі вёў гарадскі аддзел адукацыі. Былі ахопленыя ўсе школы і дашкольныя ўстановы горада і раёна. Кожны навучэнец атрымаў упакоўку "Рэвіту" (100 дражэ). Пры раздачы за самых маленькіх распісваліся бацькі. Таксама агаворвалася дазіроўка, каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў.

Дарэчы, сродкі на гэтае мерапрыемства былі выдзеленыя з рэспубліканскага бюджэту.

Такое мерапрыемства праводзілася не ўпершыню. У студзені з Германіі па лініі гуманітарнай дапамогі прыйшлі шыпучыя вітаміны. Дзякуючы гэтаму, вітамінамі ўдалося забяспечыць дашкольнікаў горада і раёна.

**Аддзел інфармацыі.**

АБІТУРЫЕНТ–2000


У зале ДКЧ нават яблыку не было дзе ўпасці.

# Навучальныя ўстановы прыехалі да моладзі

МАЛАДЗЕЧНА. Сустрэчу з прадстаўнікамі навучальных устаноў правёў рэгіянальны цэнтр занятасці. У зале прысутнічалі прадстаўнікі многіх ВНУ: БДПА, БДУіР, тэхналагічнага, медыцынскага ўніверсітэтаў, былі прадстаўленыя тэхнікумы і ПТВ. Цэнтр занятасці падрыхтаваў даведнік па мінскіх навучальных установах, дзе былі ўсе неабходныя звесткі для абітурыентаў.

Папулярнасцю карысталася камп'ютэрнае тэставанне, дзе кожны жадаючы мог за некалькі хвілін атрымаць раздрукоўку, дзе былі зазначаныя тыя ці іншыя здольнасці да выбранай прафесіі.

Не засталіся без справы і прадстаўнікі навучальных устаноў. Паколькі мерапрыемства праводзілася ў лютым, то ёсць яшчэ час падумаць, куды пайсці вучыцца. Таму і пытанняў у абітурыентаў было шмат: працягваць сваю адукацыю жадае абсалютная большасць апытаных.

Дырэктар рэгіянальнага цэнтра занятасці **Марыя Дамашкевіч**:

– Мы задаволеныя тым, як прайшло гэтае мерапрыемства. Радуе цікавасць будучых выпускнікоў: і людзі, і машыны працавалі без перапынкаў. Будзем рады, калі наша сустрэча дапаможа моладзі ўладкавацца ў жыцці.

**Юрый КАРПІЦКІ.**


Да прадстаўнікоў ВНУ заўсёды была чарга.


Папулярнасцю карыстаўся ўчастак камп'ютэрнага тэставання.

ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

ТРАНСПАРТ

# Маладзечна: чакаем гарадскі аўтобус

*МАЛАДЗЕЧНА. Гарадскія аўтобусы не кляне толькі нямы ды лянівы. А тых, хто не мае магчымасці карыстацца асабістым транспартам ці паслугамі таксі, натуральна, нямала. Мясцовым маршрутам не стамляюцца здзіўляюцца нават маладзечанцы, якія імі ж штодня карыстаюцца — ці не кожны аўтобус аб'язджае амаль усе сустрэчныя кварталы па перыметры. Некалі сцвярджалі, што гэта — вынік камп'ютэрнай прапрацоўкі гарадскіх вуліц, затым тлумачылі тым, што ахоп пасажыраў у гэтым выпадку найбольшы. Хаця зразумела, што прасцей пусціць аўтобусы напрасткі: чым карацейшы маршрут — тым часцей ходзіць транспарт; з'явіцца ў гэтым выпадку ў маладзечанцаў і стымул да рэгулярнага набыцця праязных білетаў (павялічыцца, хутчэй за ўсё, колькасць перасадак).*

## Аўтапарк і яго праблемы

– У Маладзечне ёсць 11 гарадскіх маршрутаў і 31 прыгарадны, – гаворыць намеснік дырэктара па перавозках аўтапарка №4 **Віктар Руткоўскі**. – Усяго на горадзе і прыгарадзе заняты 171 вадзіцель. Працуюць яны пазменна, рабочы дзень першай змены пачынаецца ў 5 раніцы, а другая змена заканчваецца ў 1 гадзіну ночы. За снежань сярэдні заработак вадзіцеляў склаў 31 тысячу, а ўсяго па гаспадарцы – 25 тысяч дэнамінаваных рублёў.

Недахопу ў кадрах аўтапарк не адчувае – калі б былі спраўныя ўсе машыны (а няспраўных часам 10–12 аўтобусаў), то, магчыма, былі б вакансіі, а так штат укамплектаваны поўнасцю. Пра абнаўленне парка гаварыць не даводзіцца.

– Гэта адна з самых балючых праблем, – заўважае В. Руткоўскі. – За апошні час паступіла некалькі "гармонікаў" – б/у з Эстоніі, з капітальнага рамонту прыйшло 3 аўтобусы з Гомеля, 2 – з Барысава, праводзім паглыблены рамонт сваімі сіламі. За 2 апошнія гады атрымалі, праўда, 3 новыя ЛіАЗы з Ліды. Але стабільнасці ў тэхнічным стане няма: нечакана выйсці са строю можа кожная машына.

Тым не менш, апошнім часам на маршруце №6 аўтапарк увёў дадатковы аўтобус, зрабіў новы экспрэс–маршрут № 6а, які, напэўна, "пераймянуюць" у № 8 (каб людзі не блыталіся). Маршрут дзейнічае ў гадзіны пік (з 6–00 да 10–00 і з 15–00 да 19–00): завод парашковай металургіі – атэлье "Бярозка" – Зялёны гарадок – Здземелева. Мэта ўводу – паменшыць напружанасць на аўтобусных прыпынках у раёне "парашкоў". Калі вернуцца з капітальнага рамонту аўтобусы, транспартнікі будуць разглядаць пытанне пра ўвядзенне новага экспрэс–маршруту праз шосты мікрараён.

Найбольш намесніка дырэктара турбуе дыспарытэт цэнаў. Ад пачатку года ўжо на 35% выраслі цэны на паліва. А ў іх тарыфы фіксаваныя, даходы, якія аўтапарк атрымлівае, не перакрываюць расходы (праверкі аддзелаў па цэнах рай- і аблвыканкомаў паказваюць, што такая сітуацыя практычна ўсюды па рэгіёне – **рэд.**). Мяркуйце самі: толькі на паліва за адзін дзень трэба выдаткаваць мільён дэнамінаваных рублёў, адна аўташына каштуе 120 тысяч, а даходы за дзень складаюць 500–600 тысяч рублёў. Тое, што ў маладзечанскіх аўтобусах збіраюць хоць столькі, – заслуга кандуктараў, якія працуюць на кожным гарадскім маршруце.

– За мінулы год ад "зайцоў" мы атрымалі 656 мільёнаў недэнамінаваных рублёў, – гаворыць В. Руткоўскі.

Дарэчы. Каб акупіць той "паліўны" мільён рублёў у дзень, дастаткова, каб кожны другі жыхар горада заплаціў 20 рублёў, гэта значыць, аплаціў усяго адну паездку ў аўтобусе.

**Працяг будзе.**

*Галіна БАРЫСЕВІЧ, Юрый КАРПІЦКІ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

## Курсы валют НБ РБ

| | 17 лютага | 24 лютага |
|---|---|---|
| Долар | 395,00 руб. | 406,00 руб. |
| Марка Герм. | 198,08 руб. | 208,34 руб. |
| Літ | 98,74 руб. | 101,49 руб. |
| Рас. руб. | 13,75 руб. | 14,08 руб. |
| Злоты | 95,53 руб. | 99,18 руб. |
| ЕЎРА | 387,42 руб. | 407,48 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 870 – 890 руб. | 875 – 890 руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) 16.02 | 23.02 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 980 | **980** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 3600 | **3600** |
| Сасіскі | 1 кг | 1166 | **1166** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 660 | **660** |
| Рыс | 1 кг | 400 | **400** |
| Грэчка | 1 кг | 600 | **600** |
| Цукар | 1 кг | 255 | **258** |
| Алей | 1 л | 640 | **650** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 405 | **380** |
| Маянэз | 250 г | 150 | **150** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | **900** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 300 | **320** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 200 | **210** |
| Лімоны | 1 кг | 960 | **960** |
| Апельсіны | 1 кг | 625 | **650** |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 200 | **190** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 500 | **500** |
| Масла | 1 кг | 1200 | **1200** |
| Тварог | 1 кг | 600 | **600** |
| Малако | 1,5 л | 200 | **220** |
| Бульба | вял.вядро | 700 | **800** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 470 | **480** |
| Яблыкі | 1 кг | 400 | **380** |
| Капуста | 1 кг | 130 | **120** |
| Морква | 1 кг | 280 | **240** |

РЫНАК

## Эколагі незадаволеныя рынкам у парку

ВІЛЕЙКА. Інспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакolля незадаволеная тым, што рынак размясціўся ў гарадскім парку, месцы адпачынку гараджан.

Першыя ж дні паказалі, што машыны гандляроў, на якіх падвозяць тавар, неміласэрна ламаюць кусты, узрасла загазаванасць парку. Смецце, каробкі, скрынкі ды іншая тара (пакеты, бутэлькі) і да т. п. ужо дрэйфуюць па Віліі.

Начальнік інспекцыі **Генадзь Каробчыц** гаворыць:

– Мы разумеем, што рынак патрэбны гараджанам, але шчыра просім гандляроў і пакупнікоў з павагай ставіцца да парку.

## Рыначная «тусоўка» ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА. У нядзелю раніцой ішоў на рынак. На стаянцы, што на плошчы Леніна, з "Масквіча" вылез дзед і разгублена агледзеўся:

– А дзе ж людзі? Дзе базар?

А рынак, як і раней, месціцца на ўчастку вуліцы Савецкай, што праходзіць праз парк. Але прадпрымальнікі сцвярджаюць, што ў аўторак іх заганяць "у загародку" – пляцоўку за будынкам былога гархарчпрамгандлю. У нядзелю на рынку было шмат народу, крыху менш пакупнікоў, бо частка прыходзіць на рынак "патусавацца". Нават з'явілася месца сустрэчы: перасячэнне вул. Савецкай і цэнтральнай паркавай алеі.




Жанчыны тоўпіліся каля палатак з парфумерыяй, але іх цікавілі не духі і крэмы, а адэкалоны і дэзадаранты для мужчын, бо наперадзе быў Дзень абаронцаў Айчыны. Добра бралі лімоны па "лімоне" (1000 рублёў), мандарыны (1050 руб.), яблыкі (400 руб.): прафілактыка грыпу, зімовага авітамінозу. Калгаснікі спыняліся каля раскладушкі з галёшамі (1000 руб.), гумовымі ботамі (ад 2000 да 4000 руб., у залежнасці ад вышыні). Побач прыладзіўся дзед, які за кірзавыя боты прасіў 5000 руб., за плашч ад "ОЗК" – 2000 руб. Без гэтага тавару вясной у вёсцы не абысціся. Мужчыны разглядалі рыбалоўныя сеткі вытворчасці КНР, 30 метраў – 3000 руб., 90 м – 8000 руб. – не за гарамі нераст.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

## Штраф за неразбярыху

ВІЛЕЙКА. Апошні месяц мясцовыя прадпрымальнікі адчуваюць недахоп адрыўных талонаў і накладных – дакументаў строгай адказнасці, па якіх вядзецца гандаль на рынках. Справа ў тым, што капіравальны цэнтр "Парус", які гандляваў гэтай папяровай прадукцыяй апошнія некалькі год, не можа атрымаць спецыфічны тавар са склада ў Мінску.

Многія чакаюць, што "Бланквыдат", які выпускае гэтыя дакументы, манапалізуе гандаль, заключыць дагавор з "Белкаапсаюзам", пасля чаго прадукцыя з'явіцца ў кніжных магазінах. Так гэта ці не – пакажа час, але ўжо сёння ад неразбярыхі пакутуюць прадпрымальнікі, бо работа без вышэйзгаданых дакументаў з'яўляецца парушэннем правілаў гандлю, за што органы кантролю накладаюць штраф.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

РЭКАНСТРУКЦЫЯ

## Чарачка ў абноўленым інтэр'еры

ВІЛЕЙКА. Рэстаран "Вілія" і "Начны" бар змянілі гаспадара: з МГП "Арніка" іх перадалі ў райспажыўсаюз. Плануецца пачарговая рэканструкцыя гэтых устаноў, на якую выдзяляецца, па розных дадзеных, ад 25 да 50 мільярдаў.

Што будзе ў рэстаране – пакуль няясна, а бар плануецца перайменаваць, надаць яму сучасны выгляд. Праектам займаецца прыватная майстэрня Аляксея Утулкіна з Маладзечна. Сталыя наведвальнікі гэтых піцейных дамоў спадзяюцца, што рэканструкцыя не зацягнецца (бар закрываецца з 1 сакавіка на два–тры месяцы) і бліжэй да лета можна будзе прапусціць чарачку ў абноўленым інтэр'еры.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

СПАЖЫВЕЦ

## Праверце сапраўднасць акцызных марак

МАЛАДЗЕЧНА. Сапраўднасць акцызных марак на гарэлачных і тытунёвых таварах можна праверыць на спецыяльным прыборы "Пеленг–04" у аддзеле "Прадтавары" гандлёвага дома "Няміга–Маладзечна".

Тут бясплатна праверац любы тавар, у тым ліку, і той, што вы купілі па–за межамі магазіна. Лагічна меркаваць, што такі прыбор павінен быць усюды, дзе гандлююць гарэлачнымі і тытунёвымі вырабамі.

Гэтая магчымасць з'явілася яшчэ ўвосень, аднак за ўвесь час толькі 2 чалавекі праверылі, ці сапраўдныя былі маркі на толькі што купленых бутэльках гарэлкі. Акцызныя знакі аказаліся сапраўдныя.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

## Работа над памылкамі

У мінулым нумары "РГ" быў змешчаны матэрыял Віталя Крупянькова пра наркаманаў "Пахавайце мяне на макавым полі". Пасля публікацыі ў рэдакцыю патэлефанаваў галоўны ўрач Маладзечанскага радзільнага дома **Аляксандр Лавіт**.

Як аказалася, выпадку, калі маладая жанчына пад уздзеяннем наркотыкаў выкінулася з 4 паверха раддома, не было.

Аўтар публікацыі просіць прабачэння ў калектыву радзільнага дома.

КАМАРОЎКА

## Каму вітаміны?

На рынку з'явіліся свежыя клубніцы з Іспаніі. Упакоўка 250 грамаў каштуе 3500 рублёў. Ва ўпакоўцы каля 20 ягад, гэта значыць, адна ягада каштуе 175 руб.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

«РГ»–СТАТЫСТЫКА

## Беспрацоўных паменшала

У студзені найбольш прадукцыйна спрацавала Вілейская служба занятасці. Ды і ва ўсім рэгіёне, акрамя Маладзечна і Валожына, колькасць беспрацоўных зменшылася.

| | | |
|---|---|---|
| Маладзечна (горад) | 2,06% | 1217 (+26) чал. |
| (раён) | 0,96% | 220 (+7) чал. |
| Астравец (горад + раён) | 2,10% | 335 (–8) чал. |
| Ашмяны (горад + раён) | 0,83% | 163 (–2) чал. |
| Валожын (горад + раён) | 1,00% | 194 (+10) чал. |
| Вілейка (горад + раён) | 1,50% | 488 (–48) чал. |
| Мядзел (горад + раён) | 1,60% | 295 (–6) чал. |
| Смаргонь (горад + раён) | 4,01% | 1346 (0) чал. |
| **Усяго па рэгіёне** | | **4258 (–21) чалавек** |

У дужках паказаныя змяненні ў параўнанні з публікацыяй месячнай даўнасці.

*Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.*

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Станцыя Уша і не толькі – трагедыі высакоснага года

МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета на ўчастку абслугоўвання Маладзечанскага АУС на транспарце зарэгістравана 6 няшчасных выпадкаў з людзьмі, у якіх загінула 3 чалавекі. Палова здарэнняў – на станцыі Уша. Відаць, нейкі злы рок праследуе гэтую станцыю.

А вось жыхар Смаргоні, які злоўжываў спіртнымі напіткамі і на гэтай глебе згубіў сям'ю і работу, вырашыў 22 лютага пазбавіцца ад усіх праблем, як Ганна Карэніна, – кінуўся пад грузавы цягнік на прыпыначным пункце Маладзёжны, перагона Залессе–Смаргонь.

Для забеспячэння належнага грамадскага парадку ў цягніках, на станцыях, прыпыначных пунктах, а таксама прафілактыкі траўматызму і гібелі грамадзян на чыгуначным транспарце з 22 па 27 лютага ў Маладзечанскім АУСТ праводзіцца папераджальна–прафілактычная аперацыя "Прыгарадны цягнік".

*Сяргей ВАСІЛЕВІЧ, начальнік аддзялення грамадскай бяспекі і прафілактыкі Маладзечанскага АУС на транспарце.*

## Настаўнік адправіў вучня ў рэанімацыю

ВІЛЕЙКА. Настаўнік СШ №4, які быў за рулём у нецвярозым стане, збіў хлопчыка, вучня сваёй жа школы. Х. опчык змешчаны ў рэанімацыю.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Праваліліся пад лёд

МЯДЗЕЛ. Двое рыбакоў з Пастаў заехалі на "Масквічы" на лёд возера Мядзел. Праваліліся, але, на шчасце, трапілі на неглыбокае месца. Людзі выратаваліся, а на другі дзень выцягнулі і машыну.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

